# «Я пошла из школы в блиндажи сырые...»

**По мотивам книги белорусской писательницы Светланы Алексиевич работники Тельмовского Дома культуры поставили литературно-музыкальный спектакль «У войны не женское лицо», приурочив показ к празднику Дню Победы.**

«Эта идея возникла у нас еще год назад. Тогда же состоялась и премьера, но только в сокращенном виде. К 71-й годовщине Победы спектакль на суд зрителей был представлен уже в окончательном варианте. Конечно, не обходилось без трудностей. Например, проблемы возникали при поиске костюмов, — рассказала директор Тельмовского Дома культуры Галина Крисанова. — Мы постарались передать всю боль, трагедию советских людей, их стремление к победе. Удалось ли нам это? Судить нашим зрителям».

В спектакле были представлены судьбы пяти юных девушек: Светы, Нади, Натальи, Лизы, Гали. В их роли выступили участницы кружков творческой самодеятельности Светлана Крисанова, Елизавета Костецкая, Виктория Грудовик, Галина Усович, Наталья Пешко.



Героиням спектакля предстояло пройти через ад войны и научиться жить заново. У каждой из них была своя история, своя дорога на фронт. Минуты расставания с родным домом зрителям приходилось переживать вместе с ними.

*Я ушла из детства в грязную теплушку,*
*В эшелон пехоты, в санитарный взвод.*
*Дальние разрывы слушал и не слушал*
*Ко всему привыкший 41-й год.*
*Я пошла из школы в блиндажи сырые,*
*От Прекрасной Дамы*
*в «мать» и «перемать».*
*Потому что имя ближе,*
*чем страна моя,*
*Не могла сыскать.*

Эти строки наиболее полно отразили боевой настрой тех девушек. Совсем юные, они шли побеждать врага, они уже были героями.

Бывшие школьницы, чьи-то дочери и матери становились летчицами, снайперами, зенитчицами. Как и мужчинам, им приходилось попадать под бомбежки, выживать в жестоких боях, спасать раненых, браться за винтовку, убивать... Их цель была одна — Победа.

В течение всего представления звучали песни военных лет: «Смуглянка», «Баллада о солдате», «Вальс медсестры», «Катюша».

Героиням спектакля пришлось пройти сквозь потери, голод и невзгоды и дождаться долгожданной Победы. Всем им посчастливилось вернуться на Родину, в отчий дом.

***Елена СЕЗИНА***

## Юлия Друнина

*Я принесла домой с фронтов России*
*Веселое презрение к тряпью—*
*Как норковую шубку, я носила*
*Шинельку обгоревшую свою.*

*Пусть на локтях топорщились заплаты,*
*Пусть сапоги протерлись — не беда!*
*Такой нарядной и такой богатой*
*Я позже не бывала никогда...*

*Целовались.*
*Плакали*
*И пели.*
*Шли в штыки.*
*И прямо на бегу*
*Девочка в заштопанной шинели*
*Разбросала руки на снегу.*

*Мама!*
*Мама!*
*Я дошла до цели...*
*Но в степи,*
*на волжском берегу,*
*Девочка в заштопанной шинели*
*Разбросала руки на снегу.*






Виленская археографическая комиссия, созданная в начале 1864 года для разбора и издания древних актов, опубликовала в период с 1865 по 1915 годы тридцать девять томов материалов.
Шестой том актов комиссии (в оригинале) был передан в дар Брестской областной библиотеке им. Горького в ноябре прошлого года компанией «Санта Импэкс Брест» и имеет для Брестчины особую ценность. Книга содержит документы четырех городских судов, а также судебных органов Кобрина и Каменца, которые, как и Брест, пользовались Магдебургским правом.
Редкое издание крайне полезно для ученых, историков, краеведов, юристов

— 92 —

**1589.**

**Изъ книги за 1589—1596 г., стр. 1429.**

**61. Жалоба двухъ Берестейскихъ мѣщанъ на земянина Амвросія Остромечовскаго, который разогналъ сорокъ козъ ихъ, изъ коихъ четыре пропало.**

Лѣта Божого Нароженья 1589, мѣсеца Октября 9 дня.

Передо мною Мальхеромъ Райскимъ, подстаростимъ Берестейскимъ, оповѣдали на враду мѣщанинъ его милости пана воеводы Берестейского, зъ улицы Войтовское, Лавринъ Патаповичъ а Микита Янковичъ, ижъ дей женучи имъ козы свои властныи, которые по разныхъ селахъ скупили, тогды дей перенявши ихъ на добровольной дорозѣ, за селомъ Тюхиничами у Дубинкахъ, на поли земенинъ повѣту Берестейского панъ Амброжій Касперовичъ Остромечовскій зъ иными помочниками своими, дня пятого Октябра, року осьмьдесятъ девятого, оныхъ дей невинно, кгвалтовне, зъ добытыми броями, по полѣ гонили и козъ дей его сорокъ занявши, нѣтъ вѣдому гдѣ порозганяли, межи которыми дей козъ четверо згинуло, которыхъ дей они и теперь не нашли, и въ томъ дей еще и сермяга его Микитина чорная зъ воза згинула, а сами дей они заледво передъ ними утечи могли; о што хотечи зъ нимъ мовити, просили абы было записано.

# Стары партрэт, які сілы і натхненне дае

**Гісторыя ў адным здымку сям'і Емельяна і Аніссі Ботухаў з вёскі Чэрні**



На снимке: нижний ряд слева направо: Ксения Емельяновна и её маленький сын Костя. Баба Анисья Яковлевна и моя мать Мария в возрасте трёх лет. Крайний — дед Емельян Андреевич — отец Марии.
Верхний ряд: Карпук Данило Каленикович — муж Ксении. Федора Емельяновна — дочь Емельяна и Анисьи. Архип Емельянович — крайний справа. Снимок 1928 года

О! Колькі разоў перагледжваліся старыя фатаграфіі блізкіх людзей?! Колькі разоў пераготваліся старонкі фотаальбомаў!? Ад шматлікага карыстання некаторыя са старонак маюць паношаны выгляд і згубілі сваю прывабнасць...

Але там працягваюць жыць старыя здымкі родных мне людзей, на якіх яны ўсе маладыя і прыгожыя...

О! Як гэта даўно было!?

Некаторым фатаграфіям ужо дзевяноста гадоў! А праз зусім кароткі час ім будзе — сто! Тых маладых людзей, якія глядзяць мне ў вочы, ужо даўно няма на гэтым свеце...

На здымку, зробленым у 1928 годзе, уся сям'я Ботуха Емельяна Андрэевіча. Яму ў той час было 59 гадоў. Жонцы Аніссі — 53 гады. Самай меншай дачушцы Мані — тры гадкі, а ў самай старэйшай — Ксені (сядзіць злева) былі ўжо дзеці, а на здымку трэці з іх — Кастусёк. Старэйшыя два хлапчукі, нажаль, памерлі гадавалымі.

Крайні злева — зяць Карпук Даніла. Побач з ім дачка Емельяна — Фядора. З правага боку — сын Архіп.

На здымку няма самага старэйшага з сыноў — Марка. Ён у той час жыў у савецкай Расіі.

Грэх не расказаць тое, што Марко быў членам чэрнінскай камуністычнай ячэйкі. Па заданню яе выканаў тэракт, пасля якога мусіў пакінуць Радзіму. Яму было даручана забіць мясцовага войта. Юнаку быў выдадзены пісталет і патроны. Марко падпільнаваў яго адвячоркам паміж Бердзічамі і Курніцай. Як раз у той момант калі войт на сваёй брычцы варочаўся з гміны дадому.

Гэта было ў 1925 годзе. З таго часу юнака больш ніхто не бачыў.

Аж у 1928 годзе прыйшло ад яго пісьмо з Расіі. Сын прасіў бацькоў выслаць яму фатакартку:

— Я тут адзін! А ваш здымак будзе саграваць мне душу, і адзінота перастане мяне мучыць...

І ўся сям'я ездзіла вазамі ў Брэст і фатаграфавалася.

На здымку ўсе маладыя і прыгожыя. А потым, праз дванаццаць гадоў 22 чэрвеня 1941 года пачнецца вайна.

На досвітку Емельян Андрэевіч прачнецца ад выбуху снарадаў. Стары гвардзеец, удзельнік трох войнаў, выйдзе з хаты паглядзець:

— Што гэта робіцца? Ці то гром, ці то выбухі? І адкуль?

Ён пойдзе далёка за клуню (там дзе зараз гандлёвы цэнтр і музычная школа), і там, у той самы час, на Чэрні ўпадзе першы фашысцкі снарад. Маленькі асколачак трапіць яму ў сэрца. Моцны боль апёк тады цела гвардзейца. Ён адразу ж павярнуў дахаты, яшэ дайшоў да парога, адчыніў у сенцы дзверы і рухнуў снапом на зямлю, прамовіўшы:

— Б'юць з баявых...

Так збылося прароцтва цыганкі, якая у сярэдзіне 30-х зайшла да Ботухаў у хату і наваражыла Емельяну:

— Ты бацьку, пamрэш ад кулі...

— Пайшла прэч! — узбунтаваўся на яе стары салдат. — Я на трох войнах быў! На чацвёртую мяне ніхто не возьме...

Праўда, з апошняй, германскай 14 года, ён прынёс з сабою кулю, якую рэкруты звычайна называлі «шалёнай».

— То была мая смерць...— расказваў ён усім, паказваючы тую кулю. — Але яна не здужала мяне забіць! Не хапіла ў яе імпэту. Ляцела па маю душу, але заблыталася ў маім шынялі...

Ботух Архіп Емельянавіч служыў у кавалерыі Польскага войска, дзе ўся вупраж была скураная. Усе салдаты былі апрануты ў скураныя чобаты і ў выдатную вайсковую форму. Усе былі пры шаблях.

Мясцовае насельніцтва было збянтэжана тым, што савецкае войска вызваліцеляў прыйшло ў 1939 годзе ў абмотках, а конная вупраж была ў ім з вяровак...

— Э-э! Гэта не палякі...

Як жа прыйшлі Саветы, то перад самай вайной узялі Ботуха Архіпа Емельянавіча на зборы ў Савецкую армію.

— Што ж служыў палякам, паслужу і рускім... — сказаў пры развітанні сын бацьку і пайшоў у гарнізон, які стаяў у крэпасці.

Адтуль ён больш не вярнуўся. Застаўся навек ляжаць на берагах Мухаўца.

Пасля вайны, не дачакаўшыся Архіпа з вайны, сястра Марыя пачала разшукваць старэйшага брата. Звярталася з запытамі ў ваенкаматы. Нарэшце быў атрыманы адказ:

— Прапаў без звестак...

Пасля такога паведамлення, матулі Аніссі і дзецям Архіпа была вызначана штомесячная грашовая дапамога.

Ботух Фядора была выдадзена замуж за мясцовага хлапца Ботуха Івана Сцяпанавіча.

Ксеня і Даніла Карпукі жылі на хутары ў Дубіне.

Усю вайну на іхнім хутары выводзіліся мясцовыя партызаны — Антанюкі.

Якіх толькі жахаў у той час не прыйшлося перажыць Ксені!?

Бывала ў клуні, на вышках сядзяць партызаны, а на двор прыязджаюць на матацыклах з вобыскам фашысты. Трасучыся ад страху за дзяцей, яна несла заваёўнікам яйкі і малако, каб толькі яны нічога не шукалі.

– Матка! Партызан ёсць?! — пыталіся тыя.

— А што гэта такое? — прыкідвалася яна дурніцай. — Мы самыя іх баімся...

І немцы, выпіўшы малако і яйкі, хвалілі жанчыну:

— Гут-гут! Ты карошый баба...

Сядалі на матацыклы і выязджалі з двара.

Збялелая ад жаху Ксеня ішла ў хату і падала на калені прад абразамі:

— Ойча! Дзякуй табе, што спас нас усіх. Бо як бы знайшлі партызан, нас бы ўсіх расстралялі, а хутар спалі б.

У саракавым годзе нарэшце, упешыню за доўгі час, прыехаў на Радзіму Марко. У Расіі ў яго была сям'я і малыя дзеці. Патрабавалася нянька. І старэйшы брат угаварыў самую меншую сястрычку Марыю ехаць з ім у Расію. Ёй было тады пятнаццаць гадоў, і дзяўчынападлетак дала згоду.

— Гэта ж я буду ехаць поездам! Буду жыць у вялікім горадзе...

Адзін Емельян быў супраць такой ідэі.

— Сгіне дзіця!

Але Анісся адпусціла Марыю. Маці вельмі любіла Марка, перад якім лічыла сябе вінаватай за гады мытарстваў у бежанцах па Расіі.

У 14 годзе Емельян быў у рэкрутах на германскім фронце, а ўвесь народ заходніх губерній царызм пагнаў у бежанцы.

У Аніссі не было каня, але у гаспадарцы былі валы. Перад ад'ездам увесь свой хатні скарб яна з сынамі закапала ў ямы, а самае каштоўнае: ежу, неабходную вопратку і дзяцей жанчына пагрузіла на воз і паехала у бежанцы на валах. На руках у жанчыны было немаўля (Пантэлеймон), якому не было яшчэ і года.

Усяму народу здавалася, што ад'язджаюць не надоўга, што вось — вось і вярнуцца дадому.

А вярнуліся босыя і пехатою толькі ў 1922 годзе. Што толькі не прыйшлося перажыць у тых бежанцах!?

На адной з чыгуначных станцый у Аніссі забралі валы і выдалі спраўку і нейкія грошы, якія называліся «Керынкамі». Усё жыццё жанчына зберагала, гэтыя паперы, як каштоўнасць і напамін аб тым гаротным часе.

Усю яе сямью, як і астатніх людзей, пагрузілі ў вагоны, і цягнік паімчаў іх у Тамбоўскую губернію. У вагоне памёр ад тыфу маленькі Пантэлеймон. Анісся закруціла яго ў ручнік і на чарговай чыгуначнай станцыі вынесла і паклала паміж трупаў, якія ляжалі ля чыгункі штабелямі. Не было магчымасці хаваць дзіця ў зямлю. Паклала, перахрысціла, а сама назад — у вагон, і далей — на Ўсход....

У Тамбоўскай губерніі рассялілі бежанцаў па хатах. Працавалі на гаспадароў за тое, што пакормяць і за дах над галавою. Каб вярнуцца дадому, патрэбны былі грошы. А дзе іх узяць?

У Расіі ішла ж грамадзянская вайна.

Вось тады Марко стаў ездзіць з сябрам пад Харкаў за соллю. Прывозіў, і Аніісся прадавала яе на стаканы.

Так збіраліся грошы на зварот на Бацькаўшчыну...

— Каб не Марко, то мы бы ўсе там прапалі... А так выжылі...

Таму і адпусціла Маню ў саракавым годзе ехаць з сынам у Расію. А праз год пачалася вайна з фашыстамі...

Голад і холад прыйшлося перажыць самотнай дзяўчыне ў Расіі. Куды яе толькі не закідвалі абставіны!?

Масква, Стаўраполле, Грузія... Пехатою, на папутных машынах дабіралася на Кубань з-за Каўказскага перавала.

А калі пачула, што вызвалены ад фашыстаў Брэст, стала збірацца дадому. А тут жа ніхто не верыў у тое, што Маня яшчэ жывая.

Калі ж, ужо дарослая дзяўчына, прыйшла ў бацькоўскі двор — радасці ад сустрэчы не было канца.

Толькі тады яна даведалася, што бацька Емельян загінуў ад асколка першага фашысцкага снарада, які ўпаў на Чэрні ў самы першы дзень вайны. А праз час, сям'я зразумела, што загінуў і Архіп...

Ад вялікай сям'і застаўся толькі стары партрэт.

Доўгі час гэтыя партрэты віселі ў хатах радні, на сценах.

Я іх бачыла, калі бывала там у гасцях. Віселі на самым пачэсным месцы! А зараз — гэта выйшла з моды...

Адзін ёсць у музеі сяла, другі — у мяне. Я яго трымаю, як рэліквію, як божую ікону, якая дае мне духоўныя сілы і натхняе на творчасць...

*Таццяна КАРПЕШ*
*(Ціна ХУТАРАНКА)*

# Наша рідна остромыцька мова

**Уроженец Остромечево Иван Алексеевич Панасюк составил словарь диалектов Остромечевского региона**

*От автора сборника:*

Я попытался вспомнить часть слов (лексики) моих дорогих родителей, родных и близких, соседей и земляков, которые бытовали во времена моего детства и юности (1952–1965 гг.). Я не лингвист и не писатель, не ставил никакой научной цели. Это могут сделать те, кто посвящает себя научной деятельности. Мне просто хочется, чтобы часть той самобытной «остромыцькой мовы» осталась, хотя бы в брошюре, в школьных библиотеках для использования учителями-филологами. Если вы держите её в руках, это для меня уже самая большая благодарность, этим я внёс свою маленькую лепту в сохранение языкового, культурно-исторического наследия нашего села Остромечево, которое в 2016 году отметило свое первое письменное упоминание, свой 500-летний юбилей, а наша школа — 150-летие со дня её открытия.



Хочется поблагодарить всех тех, кто причастен к выходу замечательного краеведческого журнала-квартальника Брестского района «Астрамечаўскі рукапіс», который начал входить в свет с марта 2013 года. На его страницах можно читать прекрасные материалы на местных диалектах жителей нашего Прибужья, нашего Брестского района, нашего села Остромечево. Отрадно и то, что здесь размещают материалы и преподаватели Брестского Государственного университета имени А.С. Пушкина. Эти материалы в 1950-е — 2000-е годы собирали студенты со своими руководителями. А теперь они становятся достоянием широкого круга читателей не только нашей Брестчины, ибо альманах имеет интернетную прописку. Буквально в последних номерах прочитал небольшие материалы студентов 1959 года выпуска, лично которых я знал. В журнале помещаются народные песни, пословицы, легенды. Они находились в архиве учебной фольклорно-краеведческой лаборатории БрГУ (руководитель профессор И.А. Швед), а теперь оттуда восстали. И ежегодно пополняются в ходе совместных с редакцией альманаха фольклорных экспедиций по региону, приуроченных к летней учебной практике студентов.

Мои слова благодарности Инне Анатольевне за прочтение и добрые слова относительно небольшого материала о местном говоре моих земляков-«остромычивцюв».

Приношу свою искреннюю благодарность ветерану педагогического труда, известному краеведу Брестчины — Михаилу Петровичу Мартынчуку, за согла-

сие использовать часть его собранных материалов в д. Лыщицы (Новые Лыщицы), а также известному ивацевичскому краеведу Алесю Фомичу Зайко за разрешение использовать часть слов его «Дыялектнага слоўніка Косаўшчыны», Слонім, 2011 год, употреблявшихся в речи жителей и нашего села Остромечево с конца XIX-го и до 90-х годов XX-го столетия.

Сегодня остромыцька мова растворилась в диалектах Ивановского, Дрогичинского и Столинского районов Брестской области, этим самым потеряны многие слова, поговорки, да и песни, не говоря уже об обрядах, бытовавших в селе Остромечево и на его хуторах. Задача нашего, ныне живущего поколения, — собрать все по крупицам, по-возможности, восстановить, чтобы потомки могли читать те слова, ту речь, слова песен, тот местный русско-белорусско-украинско-польский диалект, который «...является частью диалекта белорусско-украинского разговорного приграничья Западного Полесья». Это наша история.

*Иван ПАНАСЮК, краевед, автор книги «Остромечево и «остромычивцы»*

***

«Хто дбае, той і мае» — так здавён гаварыла прыказка, ўзгаданая Іванам Аляксеевічам Панасюком у зборніку «Наша рідна остромыцька мова».

Толькі дбаць можна пра рознае і па-рознаму. Як вынікае з матэрыялаў выдання ды слоў самога яго аўтара, Іван Аляксеевіч дбае пра «добрае, вечнае», каб выхоўваць маладое пакаленне «сумленнымі, добразычлівымі грамадзянамі нашай Рэспублікі Беларусь, каб любілі нашу ласкавую родную беларускую мову, гісторыю і прыроду нашага роднага палескага краю, паважалі дасягненні пакаленняў, якія жылі да нас, зберагалі ўсё, створанае нашымі працалюбівымі і беражлівымі продкамі, каб памяталі нашы старажытныя беларускія традыцыі і абрады».

Сам Іван Аляксеевіч, яго жыццё і праца, стае ўзорам улюбёнага сына ў Родную Зямлю, клапатлівага захавальніка яе духоўных (і не толькі) скарбаў. Ён пільна ўзіраецца ў розныя, нярэдка замглёныя няспынным часам, жыццёвыя з'явы яго блізкіх вяскоўцаў, роднага Астрамечава. У полі зроку Івана Аляксеевіча і залацінкі народнай мудрасці, якая зафіксаваная ў шматлікіх парэміях, і дыялектныя асаблівасці гаворкі, і ўспаміны-аповеды, і фундушныя запісы па Астрамечаўскай царкве, і святары, і храналогія значных для Астрамечава дат. Ёсць спадзеў, што гэтыя клапатліва сабраныя звесткі не пакінуць раўнадушнымі не толькі астрамечаўцаў, але і ўсіх, хто цікавіцца культурай, мовай, гісторыяй Берасцейшчыны. Клапатліва сабранае пад адной вокладкай дапаможа настаўнікам-філолагам, гісторыкам, краязнаўцам пранікнуць у таямніцы мінуўшыны Астрамечава, спасцігнуць адметнасці бытавання яго сучаснай культуры, мовы. Гэта, у сваю чаргу, паспрыяе фарміраванню і развіццю ў вучняў усебаковага ўяўлення пра культурна-гістарычныя, моўныя асаблівасці краю, выкліча ў іх гонар за маленькую Радзіму, бо як даводзіць зафіксаваная Іванам Аляксеевічам астрамечаўская прыказка: «Добра слава лыжыть, худая — быжыть». Аўтар жа гэтага выдання прыклаў усе намаганні, каб пабегла добрая слава пра Астрамечава.

*Іна ШВЕД, доктар філалагічных навук, прафесар кафедры беларускага літаратуразнаўства БрДУ імя А.С. Пушкіна*

## I. Пословицы, поговорки, присказки, идиомы; фразеологизмы, крылатые слова и выражения, бытовавшие в селе Остромечево в период с 1850 по 1990-е гг.

- Або — пан, або — про(у)пав.
- Аж з горла прэ — имеет всё с избытком, в отличие от других.
- Аж звывся од болю.
- Апытит прыходыть у час йиды.
- Бабка надвое гадала.
- Бачыты ны бачыв, и видаты ны видаю.
- Бигчы з усих лопаток — очень быстро убегать.
- Блэкоту объився.
- Бог видае, шчо робыть.
- Бог Троицю любыть.
- Браты лахы пуд пахы — брать вещи в спешке. Грубо: убираться восвояси.
- Брунь Божэ (вероятно с польского) — Борони (храни тебя) Господь! Борони (храни тебя) Боже!
- Будыш чужое хапаты — будыш Богом прокляты.
- Була б шыя, хомут найдэцця.
- Було, алэ сплыло.
- Булы бы мы, а грошы будуть.
- Бумага всё вытрымае.
- Быда сама не ходыть, за субою шчэ одну водыть.
- Быры лахы под пахы — убирайся восвояси!
- Бырыжоного Бог бырыжэ.
- Бьють и плакаты не дають.
- В гостях добрэ, дома липш.
- В нугах правды нымаш.
- В тисноти, то ны в обиди.
- Варвара дэнь оборвала, ныч прыточыла.
- Вбыратыся в сылу — мужать, физически крепнуть.
- Вик жыви, вик учысь, а дурнём помрэш.
- Вин в сорочцы родывся.
- Вмила хозяйка гутоваты, а не вмила подаваты.
- Вобратыся в собаччу шкуру — потерять совесть, моральный облик: ориентир
- Воднэ ухо влытыть, у другэ — вылытыть.
- Воду товчэ в ступи.
- Всёму свий час.
- Вси под Богом ходымо.
- Всюды добрэ, дэ нас ныма.
- Выдно пана по холявах.
- Высоко скачыш — нызко впадэш.
- Высокый до нэба, а дурный як трэба.
- Гол як сокол.
- Голова садовая — забывчивая.
- Горбатого могыла справыть.
- Гострыть зубы — готовить пакость кому-либо.
- Грих чыпаты ластовок, бо то Божья птаха, набырэшся рабыння (веснушек).
- Дай Бог ногы!
- Дай Божэ память!
- Дай тобе Божэ, шчо мэни нэ гожэ.
- Далий в лис, більш дров.
- Дар за дар, а дарма — ныц!
- Дару проса, коб молода ны ходыла боса.
- Даты рады — осилить что-либо самому.
- Дають — быры, бьють — втыкай.
- Дила як сажа била.
- Дило идэ, кантора пышэ, касса грошы ны дае. (О колхозах до 1962 г.)
- Диты, диты, куды вас подиты...
- До Святого Духа (до 1 июня — православный праздник; было холодно) ны знялы кожуха.
- Добра слава лыжыть, худая — быжыть.
- Добры вэчор, добры былы — добрэ енчыв.

- Добрэ жыто, кулы жыд ны знае грунту, а мужык фунту.
- Добрэ спаты — здоровье маты (иметь).
- Догоры ногамы = вверх тормашками — перепутать верх с низом.
- Дошч идэ, падае, капае, крапае, пляжыць, льле, пэрыть, мжыть.
- До(тла) — до дна. (Свыны здздилы всё дотла).
- Дохолеры — много. (Ты мни налив супу дохолеры).
- Дрыжыть як осиновый лыст.
- Дурного робота любыть.
- Дурный, як чобут.
- Дух вытрасу! Даты чосу.
- Дывыцця як баран на новы ворота.
- Дывыцця як кит на сало.
- Дэ взяты тые грабли, щоб от сэбэ грэбли.
- Дэ тонко, там и рвэцця.
- Дэрво посадыв — Богу угодыв.
- Ёго и слид простыв.
- Жаху навив — навёл страху.
- Ждаты з моря пугоды.
- Жывуть душа в душу.
- Жывуть як кит с собакою.
- Жывэ кит, а жывэ и собака! (О разнице условий в чём-либо).
- Жывэм, хлиб жуем, вудою запываёимо.
- Жызнь прожыты ны полэ пырыйты.
- З бухты-барахты — необдуманно (непродуманно); не взвесив; на скорую руку.
- З глузду зъихаты = сойти с ума; съехать с катушек.
- З головы ны выходыть (мысль, думка).
- З ласкы на потиху — унизить коголибо.
- За добрую память (вспомнить чтолибо).
- За дурнэю головою ныма ногам запокою.
- За пани-брата — принимать кого-либо за, якобы, давно хорошо знакомого.
- За уха ны одтягныш (так вкусно!).
- Заглянэ сонцэ и в нашэ оконцэ.
- Закон як дышло: куды повырнулы, туды и выйшло.
- Запыв — сэбэ згубыв.
- Заробывся як бараний хвист.
- Зарыкалася свыння калу ны йисты.
- Злазь з даху, ны псуй гонту — в прямом смысле: «Слазь с крыши, не порть гонту!» Хозяин говорит мастеру-кровельщику, который не ровно ложит гонту (деревянные дощечки длиной 45-50 см, шириной 8-10 см, входящие одна в одну). Кровельщик делает не качественно крышу. В жизни эту поговорку используют во многих подобных ситуациях.
- Злосты повны косты.
- Знае кишка, чые сало здзила.
- Зубы ны пошчытаиш. Между молодыми парнями происходит перед дракой словесная перепалка, в которой один из них, угрожая другому, говорит: «Зараз як дам тоби, то ты и зубив ны пошчытайиш!»
- Зымою и литом — одным цвитом.
- Зять любыть взять.
- И камынь вода точыть.
- И нашым и вашым.
- И так и сяк.
- Илля завжды наробыть гнылля.
- Ишов (йихав) до Пинска — роскидав лупыньска, ишов з Пинска — збырав лупиньска. Крестьянин в 1939/40 году, ехавший в город брал с собой на определённое время еду. В первый день кушал её не экономя, выбрасывая картофельные очистки («мундиры»). Прошло 2-3 дня, продуктов не стало, он едет домой и думает, что распорядился не рачительно запасом еды, готов был бы собрать и «лупинска», т.е. картофельные очистки. А город мог быть любой. Услышал я

это выражение в 1962 году от мужа моей крёстной — Практика Василия Филипповича, который в те годы работал кондуктором в вагонах поездов Брест-Пинск. Он был уроженцем д. Малые Сухаревичи Брестского района. Дети живут в Бресте.
- Йерунда на посном масли.
- Йисть-пойидом — постоянно провоцирует ссору.
- Кашу маслом ны спортыш!
- Клоччэ вовна, абы кышка повна! — в тяжёлые военные и послевоенные годы жителям приходилось использовать в пищу лебеду, крапиву, плоды черёмухи и многое другое, чтобы не умереть от голоду. Тогда и бытовала эта пословица.
- Клянчыты — унизительно, с плачем просить что-либо у кого-либо. В итоге — выклянчыты — выпросить.
- Коб довго жыты, трэба всих любыты.
- Конци в воду — ликвидировать улики.
- Кончыв дило — гуляй смило!
- Копошышся як кура на яйцях!
- Косы до поту — пойисы в охоту.
- Косы коса, пока роса, роса долой — коса домой.
- Кругом да около, да всё лисом.
- Крывыццця як од гиркой рэдькы.
- Крычыть напромилый Бог.
- Куды очы дывяццця — куда глаза глядят (податься).
- Кулоты (в) очы — упрекать кого-либо в чём-либо беспричинно.
- Кульгавому найбильш ходу, а бызязыкому найбильш мовы.
- Кумар носа ны подточыть.
- Купляйиш коровку, быры и выровку.
- Кынулы як собаку.
- Кынуть оком — окинуть взглядом.
- Ласкавэ тылятко дви маткы ссэ.
- Лёхко чужымы рукамы жар з пичкы выгрыбаты.
- Лизты, як слота в вочы
- Липш кепско йихаты, чым добрэ йты.
- Липш хлиб з водою, чым коровай з быдою.
- Ложка дёгтю в бочцы мэду.
- Лыхо ёго знае — никто это не знает (што он делает).
- Лэдь ногы волочэ — еле тянет ноги.
- Любыть як душу, трасэ як грушу.
- Любыть, як субака палку (о ложной любви, уважении).
- Люды на свыны — всё здзиять=съедят.
- Людэй губыты — свита ны бачыты.
- Людэй обижаты — сэбэ зныважаты.
- Ляскаты зубамы — дрожать от холода.
- Марыць откусыть палец.
- Мисця соби ны находыть — переживает.
- Мниго снига — мниго хлиба, ныма снига — ныма хлиба.
- Мниго хочыш, мало получыш.
- Мовчыть як воды в рот набравшый.
- Мух оцётом ны ловять.
- Мы самы з усамы = у мэнэ свуя гулува на плэчах.
- Мягко стэле, но твэрдо спаты.
- На дурнях воду возять.
- На дыво — на диво.
- На жэшком ошпарывся, дуе на холоднэ.
- На злодыёвы шапка горыть.
- На мисцювы и камынь обростае.
- На Мыхайла зыма вьихала.
- На наш вик дурнив хватыть.
- На пэршы дэнь гость — золото, на други — сырыбро, а на трэтий — медь, збирайсь дай до дому йи(е)дь.
- На хутком часи — не откладывая в долгий ящик.
- На чужому горбовы в рай ны заидыш.
- Набрався як жаба мулу.
- Нагострыты лыжы — намериваться куда-либо сходить.
- Найшла ко(у)са на камынь.

- Намылыты «морду», шыю — набить кому-либо лицо грубо «морду»; надавать в шею; мягко надавать по щекам
- Наробыты лыха — наделать беды.
- Носыцця як дурынь з двэрцямы.
- Ны влытыть, то вканэ — попасть «с огня в полымя»; попасть не в одну, то в другую неприятность.
- Ны втяты — ны взяты. Современно звучит примерно так — с него ничего не возьмёшь, кроме анализа.
- Ны грайся з угнём (около раскрытой дверцы печи). (Не имей дела с опасностью).
- Ны дай Божэ з хама — пана.
- Ны застуй — не затеняй (заслоняй) свет.
- Ны кажы «гоп!», пока ны пырыскочыш.
- Ны лизь на рожон.
- Ны лий масло в угонь.
- Ны мила баба клопоту, купыла порося.
- Ны мычыть, ны тэлыцця.
- Ны найився, ны налыжышся.
- Ны носы камынь за пазухою.
- Ны одным хлибом жывэ чоловик.
- Ны пры нас говорачы (кажучы).
- Ны пытай у хворуго здуровья.
- Ны рыба, ны мясо.
- Ны свит, ны заря.
- Ны так Вовк бойицця собакы, як ёго звягы (брэха).
- Ныц ны порадыш — ничего не поделаеш.
- Обое-рабое = два чобота — пара; муж и жена — одна сатана, т.е., сошлись два человека с одинаковым характером, не уступающих ни в чём друг другу.
- Обяцанка-цацанка, а дурнёвы — радосц(т)ь.
- Овчынка выробкы ны стоить.
- Од дубра дубра ны шукають.
- Од роботы коны дохнуть.
- Одбою ныма — нет проблем со сбытом (продажей) чего-либо.
- Одна нуга — тут, друга — там.
- Одным махом — мгновенно.
- Одна паршыва овэчка всё стадо портыть.
- Одного поля ягоды.
- Опарывся на молоковы, дмухае на воду.
- Остатыся на «бабах» = у розбытого корыта — остаться ни с чем.
- Охота гирш ныволи.
- Пар костэй ны ломыть
- По йому давно тюрма плачэ.
- Повные косты — быть очень злым (злосты повны косты).
- Подыйматы бучу — начать ссору; «наводить (бес)порядки».
- Пожывэмо — пабачымо.
- Покиль товстый ссохне, то тонкый здохнэ.
- Помыняв быка на индыка.
- Попала ку(о)са на камынь.
- Поротыгарячку — делать необдуманный поступок.
- После Лли сыдыть чорт (курч-судорога) в (у) води.
- После Мыколы — тыпла ныколы.
- После Спас — рукавыци до пояса.
- Поставыты на своим — настоять на своём.
- Пошла Ганна жыто жаты, а забула сэрпа взяты.
- Пошлы дурного, а за йим другого.
- Пошлы малое, а за йим другое.
- Правда очы колэ.
- Прупав як бунька на води.
- Прупадэш як швэд пуд Палтавою.
- Пушов в дыкы лозы. Обычно говорят о мужчине, хозяине, который оставил семью; ушёл из семьи.
- Пы, а розуму ны пропывай.
- Пьяному и морэ по колину.
- Пэрш-напэш — сначала; во-первых.
- Рад ны воля — хочешь, не хочешь.
- Рано вставаты — жыттё пуважаты.

- Ранок — панок.
- Робота ны вовк, в лис ны втычэ.
- Розводытыантимонию — «забалтывать что-либо важное», волокитить; не давать хода дельным предложениям.
- Розумна — як лиса, дурна — як ворона.
- Ростовсцив як откормляный выпрук.
- Ростэ як на дрожжах.
- Ругай (гань), алэ рукам волю ны давай.
- Рукою ны махай, чого ныма — ныхай!
- Сало з часныком липш, чым дуля з маком.
- Самы з усамы.
- Сварацця, як звыдзёны — как сводные (братья).
- Свиту ны бачыты — не иметь свободного времени.
- Своя рука — владыка.
- Сив в калошу — опозорился.
- Сино-солома — мешанина; напутано; невпопад; не в строчку.
- Скону вику — испокон веков.
- Слёзамы гору ны поможыш.
- Слипнем (овод) лизты в очы — корить кого-либо, не давая ему возможности оправдываться.
- Служка, вылызь з-под лужка — слуга, вылезай из-под кровати. (Относительно человека, не прибирающего за собой рабочее место после работы).
- Слухай мэнэ — быда ны мынэ.
- Смитте збырайиш — об жытти дбайиш.
- Собакам сино косыть — (об отце, оставившем семью).
- Собакы ны брыхалы, а грошы пропалы.
- Собацы собачча смэрть.
- Сонцэ в гору — муроз в нору.
- Спаты быз задних ниг.
- Спыть — як пшыницу (вола) прадавшы.
- Спыть — як хомяк (сурок, мыдвидь).
- Стары кинь борозны ны портыть.
- Старэ, шчо малэ.
- Стуяты на свойим — стоять на своём; отстаивать свою точку зрения.
- Сцявшы зубы — терпеть кого-либо, не переносить.
- Сыдять соби радком и гомонять ладком.
- Сылою ны будыш мылою.
- Там дэ кварта — там и Марта. Женщину (как и мужчину), любящую винные напитки, можно всегда найти по одному адресу — там, где выпивают...
- Там дэ (на ёму — на нём) сядыш — там и злизыш.
- Тилько його и бачылы — только его и видели.
- Тип-топ — модно выглядеть; выглядеть «на все 100».
- Типун (прыщ) тоби на язык.
- То було пры цару Гороху, як було людэй троху (давно).
- Трэба тоби, як мэртвому кадыло (прыпарка).
- Тупый як шпала, як сибирскый валянок.
- Тым чясом — тем временем.
- Тырпы казак, атаманом станыш.
- Тэмно, хоть очы выколы.
- Тягнуты ярмо — трудно и тяжело физически работать.
- У Бога шчэ дён мниго.
- У выровку лизты — лезть в петлю.
- У горячий води купаный — нетерпеливый, несдержанный (холерик).
- У колхози добрэ жыть: одын робыть — сим лыжыть!
- У коровы молоко на языковы.
- У мэнэ своя го(у)лова на плэча(о)х.
- Усё з рук падае.
- Уха вянуть.
- Учысь ны учысь, а дурнём помрэш.
- Хвалю за ухватку, як забью воробъя, дам цилу лопатку.
- Хлиб усёму голова.
- Холодно? Накынь радно! Ны будэ холодно.

- Холодно — на ком одно, а на ком ны одно, тому ны холодно!
- Хоть дрыжыть, а фарс (форс) дыржыть!
- Хоть голкы пу(о)д місяцём збырай. (Так свитло од мисяця, особлыво у студынёвы, пырыд Роздвом — до 7 января).
- Хоть жывым лизь в зэмлю.
- Хоть косою косы — грибов хоть косой коси.
- Хоть круть-вэрть, хоть вэрть-круть. И так — и сяк.
- Хоть кулка на голови чышы, а вин своё творыть.
- Хоть око выколы. (Такая тэмынь на двори).
- Хоть репу сий — руки грязные «хоть репу сей».
- Хрэн рэдьки ны солодчий.
- Хто дбае, той и мае.
- Хто дорого купляе, той лышок мае, а хто дёшыво купляе — той ныц ны мае.
- Хто кого любыть, той того чубыть.
- Хто крутыть, той мае.
- Хто мниго выпывае, той розума зувсим ны мае.
- Хто ны мниго выпывае, той розум мае (розум ны губляе).
- Хто пизно ходыть, той сам соби шкодыть.
- Хто простуе (прамкуе), той дома не ночуе.
- Хто рано встае, тому Бог дае.
- Хто у — лиси, а хто у — стриси (крыша из соломенных снопиков).
- Цыплят по осыни шчытають.
- Чым богаты, тым и рады.
- Чын-чынырём — выглядеть аккуратно одетым, без всяких изъянов.
- Чырыз пэнь-колоду.
- Чырыз шчур (слишком много).
- Шо горохом об стыну.
- Шоб Бог дае — тое всё добрэ.
- Шпендик — жадный (зажимистый) подросток.
- Шукай витра в(у) полювы, а чоловика в лиси — исчезнуть в неизвестном направлении, не оставив сведений, адреса.
- Шукай витра у полю; ишчы-свышчы.
- Шчи да каша — йида наша.
- Шчо в лоб, шчо по лбу.
- Шчо з воза упало, то пропало.
- Шчо за лышне, то и свыны ны йидять.
- Шчо туби даты? А тое, шчо лёгко носыты, але тяжко просыты.
- Шчо я у Бога тыля вкрав — я такой же, как и все.
- Шыла в мышковы ны втаиш.
- Язык — як помыло.
- Язык быз косты, можэ всё плысты.
- Язык до Киева довыдэ.
- Язык свырбыть — язык чешется.
- Як жывэтэ (жывэцця)? — «Жывэм, хлиб жуем, водою запывайимо».
- Як з гуся вода.
- Як змокла курыця.
- Як корова языком злызала.
- Як корова языком злызала.
- Як май змаяв — (бесследно исчезло).
- Як мокрэ горыть.
- Як ны влытыть, то вканэ.
- Як ны найився, то и ны налыжышся.
- Як постэлыш, так и спаты будыш.
- Як той казав — как тот говорил.
- Як топышся — то и за соломынку схопышся.
- Як ты ныбач — моментально, очень быстро, не моргнув и глазом.
- Як у Бога за пазухой — как у Бога за пазухой.
- Як у зэмлю (скрозь зэмлю) провалывся — провалился, как сквозь землю (пропасть бесследно).
- Якы корч, така лоза.
- Якыйи лита, такый и розум.

*(Працяг будзе)*



## *Да 130-годдзя з дня нараджэння* ***Змітрака Бядулі*** *(1886–1941)*

Змітрок Бядуля (сапраўднае імя Самуіл Плаўнік) — беларускі і савецкі паэт і празаік, мовазнаўца. Нарадзіўся ў небагатай яўрэйскай сям'і ў вёсцы Пасадзец на Лагойшчыне. Хлопчык вучыўся ў пачатковай яўрэйскай школе, у школе равінаў. Ведаў іўрыт, ідыш, нямецкую, беларускую, рускую і польскую мовы. Нейкі час працаваў хатнім настаўнікам іўрыту. Яшчэ хлопчыкам складаў вершы на іўрыце, але пачаткам яго літаратурнай дзейнасці лічыцца 1907 год, калі ён пачаў пісаць вершы на рускай мове і пасылаць іх у пецярбургскія часопісы. Там вершы хвалілі, але не друкавалі. Першы мастацкі твор будучага пісьменніка ўбачыў свет у газеце «Наша Ніва».

У 1912 годзе Бядуля пераехаў у Вільню, працаваў у канторы лесапрамыслоўца, затым у рэдакцыі «Нашай Нівы». Пасля Кастрычніцкай рэвалюцыі некалькі гадоў працаваў у газеце «Савецкая Беларусь» і іншых, быў рэдактарам дзіцячага часопіса «Зоркі». У 1926 годзе пачаў працаваць у Інстытуце беларускай культуры, рэдагаваў краязнаўча-этнаграфічны часопіс «Наш край». Уваходзіў у літаратурнае аб'яднанне «Маладняк», пасля — ва «Узвышша». У пачатку Вялікай Айчыннай вайны эвакуіраваўся з Беларусі. Сябра СП СССР з 1934 года.

Першы надрукаваны твор — імпрэсія на беларускай мове «Пяюць началежнікі» («Наша Ніва», 1910). У 1913 годзе апублікаваў зборнік лірычных імпрэсій «Абразкі» (Пецярбург). У паслярэвалюцыйны час выйшлі кнігі паэзіі «Пад родным небам» (1922), «Буралом» (1925), «Паэмы» (1927), зборнікі апавяданняў «На зачарованых гонях» (1923), «Апавяданні» (1926), «Выбраныя апавяданні» (1926), «Танзілія» (1927), «Дэлегатка» (1928), «Тры пальцы» (1930), «Незвычайныя гісторыі» (1931), «Па пройдзеных сцежках» (1940), аповесці «Салавей» (1928), «У дрымучых лясах» (1939, часопіс «Полымя»), двухтомны раман «Язэп Крушынскі» (1929–1932). Выдаў дзіцячыя кнігі «Качачка-цацачка» (1927, казка), «Вясной» (1928, вершы), «Гаспадарка» (1930, вершы), «Мурашка-Палашка» (1939, вершаваная казка), «Люцік» (1940, верш), «Хлопчык з-пад Гродна» (1940, паэма). Выдаў даследаванне «Вера, паншчына і воля ў беларускіх народных казках і песнях» (1924), кнігу нарысаў «Дзесяць» (1930). Шмат твораў і зборнікаў выйшлі пасля смерці.

Памёр 3 лістапада 1941 каля Уральска, Расія.

